


# THE WALKING DEAD

45

$2.99

KIRKMAN • ADLARD • RATHBURN

.BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ

Хадзячыя мерцвякі
№45 (2003)
пераклад і афармленне: Козыраў Сяргей

IMAGE COMICS PRESENTS

# THE WALKING DEAD™

ROBERT KIRKMAN
Creator, Writer

CHARLIE ADLARD
Penciler, Inker, Cover

CLIFF RATHBURN
Gray Tones, Cover Colors

RUS WOOTON
Letterer

SINA GRACE
Editor


For Skybound Entertainment




Robert Kirkman
chief executive officer

J.J. Didde
president

Sina Grace
editorial director

Shawn Kirkham
director of business development

Tim Daniel
digital content manager

Chad Manion
assistant to mr. grace

Sydney Pennington
assistant to mr. kirkham

Feldman Public Relations LA
public relations

for International Rights inquiries,
please contact sk@skybound.com

www.skybound.com


## Previously:

Woodbury, led by the governor, finally attacked. It wasn't pretty. Rick and Andrea have both been shot.


For Image Comics




Robert Kirkman
chief operating officer

Erik Larsen
chief financial officer

Todd McFarlane
president

Marc Silvestri
chief executive officer

Jim Valentino
vice-president

Eric Stephenson
publisher

Todd Martinez
sales & licensing coordinator

Sarah deLaine
pr & marketing coordinator

Branwyn Bigglestone
accounts manager

Emily Miller
administrative assistant

Jamie Parreno
marketing assistant

Kevin Yuen
digital rights coordinator

Tyler Shainline
production manager

Drew Gill
art director

Jonathan Chan
senior production artist

Monica Garcia
production artist

Vincent Kukua
production artist

Jana Cook
production artist

www.imagecomics.com


THE WALKING DEAD WEEKLY #45. November 2011. Published by Image Comics, Inc. Office of publication: 2134 Allston Way, 2nd Floor, Berkeley, CA 94704. Copyright © 2011 Robert Kirkman LLC. All rights reserved. THE WALKING DEAD™ (including all prominent characters featured herein), its logo and all character likenesses are trademarks of Robert Kirkman LLC., unless otherwise noted. Image Comics® and its logos are registered trademarks and copyrights of Image Comics, Inc. All rights reserved. No part of this publication may be reproduced or transmitted in any form or by any means (except for short excerpts for review purposes) without the express written permission of Image Comics, Inc. All names, characters, events and locales in this publication are entirely fictional. Any resemblance to actual persons (living and/or dead), events or places, without satiric intent, is coincidental. Printed in the USA. For information regarding the CPSIA on this printed material call: 203-595-3636 and provide reference # EAST - 411280


Божа літасцівы!


Хто-небудзь, аднясіце Рыка ўнутр, у лазарэт... І яшчэ мне патрэбны хтосьці тут, каб дапамагчы Андрэа...
Вось лайно!


Мне там спатрэбіцца дапамога... Вельмі шмат усяго трэба зрабіць. І я не хачу, каб хтосьці блытаўся ў нагах...
Заносьце іх унутр і не высоўвайцеся.


Там у задняй частцы ёсць аперацыйная... Пакладзіце Рыка на стол... Хутчэй!!!
Камусьці прыйдзецца адшукаць Лоры і расказаць ёй, што здарылася.
Калі стралялі, я не бачыла ні яе, ні Патрыцыю, ні дзяцей... Таму я нават ня ведаю, дзе яны могуць быць.



А-а?
Вось лайно.

Мы перамаглі?
Яшчэ не... Ты ня доўга была ў непрытомнасці, ледзь больш гадзіны, ну мабыць паўтара.

Траўма не вельмі сур'ёзная. Куля толькі шарганула па чэрапе... Пакінула прыстойную разору на ім, але ён вытрымаў.
Застанецца вялікі шнар, і валасы на гэтым месцы ўжо ня будуць расці... Але ты будзеш у парадку. Толькі страціла трохі крыві. Не так шмат, каб чакаць нейкія ўскладненні.
З табой усё будзе добра.

Яшчэ адзін шнар, га?
Табе пашансавала...
Чартоўскі пашансавала.

Не магу ёю парухаць.

І хутчэй за ўсё яшчэ нейкі час не зможаш. Куля прайшла праз твой правы біцэпс... Рана чыстая, але пашкоджанне ўсё роўна моцнае.

А што з ім?

З Рыкам? Ня ведаю. Ён страціў вельмі шмат крыві. Я выняла кулю... і здаецца спыніла крывацёк. Пасля таго, як скончу з табой, пайду пагляджу, як ён.

Калі шчыра, выглядае дрэнна.

Лайнова.

Праўду кажаш.






Мне трэба ўзяць у кожнага з вас кроў на аналіз, такім чынам я змагу праверыць яе на сумяшчальнасць з крывёю Рыка.

Нам трэба зрабіць гэта, як магчыма хутчэй... Важная кожная секунда.










Ну што?
Хвілінку.
Эліс, ну калі ласка.
Хвіліну.


Мам, можна мне ўжо зайсці?
Яшчэ не, мілы. Я цябе паклічу.. Зачыні, калі ласка, дзверы.
Добра. Яго пульс стабілізаваўся... Не такі моцны, як павінен, але значна лепш, чым быў. Усё, што я агледзела, выглядае добра... Тэмпература паднялася, ён дыхае, добрае сэрцабіццё...
Небяспека пакуль застаецца, усё яшчэ можа хутка сапсавацца, ты павінна гэта разумець.


Я буду правяраць яго кожныя дзесяць хвілін. Я памагу вам зладзіць з гэтым.
Дзякуй табе.
Хочаш, каб я адчыніла Карлу?
Так.


О, Рык.


Пераліванне, здаецца, прайшло добра... Таму, відаць, усё будзе добра.
Гэта добра. Дзякуй, што наведаў мяне.
Я турбаваўся. Гэта нармальна. Я... Андрэа, нам трэба пагаварыць.


Памятаеш, калісьці мы казалі аб тым, каб пакінуць гэта месца разам? Узяць фургон і проста ўехаць?
Мяркую, **зараз** той самы час.


Ты хочаш, каб мы пакінулі гэтых людзей, нашых сяброў, зараз... пасярод усяго гэтага?!


Пакінуць гэта месца, так. Кінуць іх? Толькі калі яны адмовяцца ехаць з намі. Нам трэба выбірацца з гэтай турмы. Даць гэтым псіхам забраць яе... Проста аддаць яе ім.
Зараз гаворка ідзе пра нашае жыццё.


Гэта не пытанне гонару ці адданасці... гэта пытанне жыцця... Нашага жыцця і жыцця нашых дзяцей. Мы ня можам рызыкнуць усім гэтым, каб абараняць гэта месца.
Нам трэба з'яжджаць зараз жа, пакуль не пачалася новая атака... Сёння, калі атрымаецца.
Ведаю, ты згодна са мной. Дзесьці ў глыбіні душы, Андрэа... Я ведаю гэта. Так будзе правільна.


З ім усё будзе добра.
Ты ня ведаеш гэтага.
Мабыць і так... Але я дакладна ведаю, што мы згубім свой шанс. А ён у нас толькі адзін.


Падумай сам... Яны збеглі, бо Андрэа забіла даволі шмат з іх... Яны не былі гатовы да таго, што мы будзем адбівацца.
Ды мы і не супраціўляліся зусім. Мы былі абсалютна непадрыхтаванымі... Нават не выкарысталі нічога з таго, што вынеслі са склада вайсковай базы.
Як, лічыш, яны адрэагуюць, калі мы вышукаем іх... і заб'ем яшчэ некалькіх? Мабыць, тады яны ніколі ня вернуцца.


Што ж, я не казаў, што гэта дрэнная думка. На самой справе, я, здаецца, нават сказаў, што гэта дрэнная ідэя.
Проста ў нас недастаткова людзей, каб зрабіць гэта.


Нават калі будзем толькі мы, ты і я... Мы маглі б зрабіць гэта. Хоць чагосьці дамагліся б.
Мы маглі бы ўвайсці, забіць некалькіх з іх, і уйсці перш, чым яны нават зразумелі б, што мы там былі.


Толькі мы ўдваіх?
Хмм.


Так, нават, калі больш ніхто не захоча пайсці, мы можам нашкодзіць ім... Мабыць нават самаму Губернатару.
Ну дык што?







По адкрытай прасторы? Так. Калі б Губернатар быў разумным, ён бы пакінуў парачку снайпераў у лесапаласе на выпадак, калі б мы вырашылі збегчы ці пайсці за ім.

Я спадзяюся, што фанабэрыстасць перашкодзіць яму так зрабіць, але на ўсялякі выпадак прыгніся і не сымай шлем.

А калі б ён быў яшчэ разумнейшым, ён зрабіў бы так, каб яны пачакалі, пакуль мы дабяромся да дрэваў, тады б нашыя, у турме, не даведаліся б, што яны там.

Калі пачнуць страляць... Адразу разварочваемся і бяжым назад у турму.

Дамовіліся.


Ты кідаеш нас? Як ты можаш? Божа, Дэйл!
Я не кідаю вас. Я хачу ўзяць вас усіх з сабой. Мы павінны ўехаць адсюль... Ня трэба змагацца за гэта месца.
Хершэл і Білі... Яны застаюцца. Эксел не ідзе. Нават Патрыцыя збіраецца застацца... Але ў вас дзеці. Я спадзяваўся, што змагу пераканаць цябе прыняць разумнае рашэнне.


А як жа Рык? Я ня кіну яго.
Рык сам бы хацеў, каб вы ўехалі. Тут застануцца людзі, якія змогуць яго абараніць. Я ведаю, што вы хочаце зрабіць... Я ведаю, чаму вы хочаце зрабіць гэта... Але гэта занадта небяспечна, Лоры.
Падумай пра дзяцей. Калі сама не хочаш уязджаць, тады хаця б дай мне забраць іх... Хаця б Карла і Сафію.


Не... Я не пакіну яго зноў. Толькі не цяпер... Не пасля ўсяго таго, праз што мы прайшлі разам.


Тады Сафію. Чорт бяры, я спрабую хоць каму-небудзь жыццё выратаваць. Гэта дзяўчынка вельмі шмат перанесла. Ведаю, Кэрал даверыла яе выхаванне табе, але яна не хацела б, каб тая заставалася ў небяспецы.
Мы забіраем яе. Калі хочаш спыніць мяне... Табе прыйдзецца мяне застрэліць.


...


Божа ты мой... Спадзяюся, мы ўсё робім правільна...
Мы вернемся пазней... Мы жа не кідаем гэтых людзей. Проста цяпер пасля таго, што здарылася, я больш не хачу рызыкаваць.
Дэйл?!


Глен, прывітанне. Прыйшоў правесці нас?


Не, на самой справе... Мы з Мэгі абмеркавалі... І яна... Мы вырашылі, што калі прапанова ўсё яшчэ дзейнічае, тады мы б хацелі пайсці з вамі.


Так, канешне... Безумоўна. Хто б ні пажадаў далучыцца - усім знойдзецца месца. Добра, што будзе хтосьці яшчэ з дарослых, з кім можна паразмаўляць.
І хтосьці, хто не памятае Вялікую дыпрэсію.
Файна. Дзякуй.
Збегаю за нашымі рэчамі.


Прабач, проста я... Я так хачу дзіцяці і...
Усё добра, Мэгі. Усё добра. Ты ўжо дарослая дзяўчынка... Ты робіш так, як лічыш патрэбным.
Шчыра кажучы, я зусім не супраць таго, каб ты была ў бяспецы нейкі час... Ты толькі вярніся да мяне.
Калі ўсё гэта закон-чыцца... вяртайся.



Добра... Цягніце, трэба зачыніць іх раней, чым вандраўнікі страцяць цікавасць да Патрыцыі.

Курвіска.
Тат?!

Прабач, Білі. Я не хацеў...
Проста я...

Ты расчараваны з-за таго, што яны ўехалі? Кінулі нас? Магу цябе зразумець. Гэта нармальна.
Не, сынок. Ніколькі.
Проста я ніяк не магу пазбавіцца ад пачуцця, што я толькі што бачыў Мэгі ў апошні раз.

Як толькі мы расставім машыны на свае месцы... Ты пакладзеш гранаты за кожную машыну. Гранаты ў нас будуць па краях, а стрэльбы і кулі мы схаваем пасярэдзіне... на цэнтральнай пазіцыі.

Так, зразумеў... Я памятаю план.










Ён стабільны. Ня ведаю, што я яшчэ магу для яго зрабіць... Яму проста трэба адпачнуць.


Спадзяюся, ён не будзе адпачываць занадта доўга. Ненавіджу, калі ён скідвае ўсё на сябе... Але ўпэўнена, мы не зладзім без яго...




Гэта шаленства. Ня веру, што мы робім гэта. Трызненне нейкае.
Не трызненне. Проста рабі, як я кажу.
Калі мы заб'ем хаця б двух і вернемся назад, тады гэта ўжо будзе вартым таго. У нас ёсць усе шансы зрабіць гэта.


Двум я буду рады, толькі калі адзін з іх будзе...


Стой.


Там.
PATTER.
PUTTER.


Шо..?!




SHUKKK!


Хутчэй, Тайрыс... Дапамажы мне схаваць цела.


Вось лайно!




BLAMM!
WHUMP!


Піпец.


Бяжым!
Не!
Мы зробім гэта зараз ці ўжо ніколі!!!


Боскія высерні! Гэта ж яны!
Страляйце ў іх!

Давай, давай!
Тваю ж маць!

Сюды!

Што за гамон?!
Знайсці іх!

Зараз!
Лайно! Ох, чорт!


Ты ж памятаеш свайго дзядзьку Джэфры?
Дзядзьку Джэфа. Ага.
Так. Татавага малодшага брата. Ён рэдка заходзіў, пасля таго, як твой тата і я ажаніліся.


Неяк твой дзядзька зламаў шчыкалатку пад час вучэбнай эвакуацыі, ці штосьці такое, калі быў дзіцём. З-за гэтага ён кульгаў некалькі месяцаў.
Рабяты з класа твайго бацькі смяяліся з Джэфа, давалі яму ўсялякія крыўдныя мянушкі. Твой бацька не мог гэтага стрываць.
Аднойчы яму прыйшлося біцца з чатырма ці пяццю хлопцамі, каб яны перасталі дражніць яго маленькага брата... Гэта была бойка, у якой твой тата не мог перамагчы.


Але яму было ўсё роўна... Толькі б у яго брата ўсё было добра.
Вось...
Вось такі ён - твой бацька. Ён...


Ён спрабуе рабіць тое, што лічыць правільным... Нават калі яму ад гэтага больна. Ён заўсёды быў адданы тым, каго любіў...
Ён бы ніколі...


Не плач, Лоры.

Мне будзе лепш.
Ну жа...
Гэта проста драпіна.


О, Рык... О, божа, у гэты раз ты на самой справе...
Ведаю, Лоры. Ведаю. Усё ў парадку. Я ў парадку.
Дай-ка пагля- дзець на гэтую дзяўчынку.


Маленькая Джудзі, у мяне нават не было часу пазнаёміцца з табой.
Не мог жа я пакінуць вас, не зрабіўшы гэтага. Можаш быць упэўнена ў гэтым.


Я не хваляваўся, тат. Я ведаў, што ты ачуняеш.
Ведаю, сынок.
Ты ж ведаеш, які ў цябе дужы бацька.


Окей... Окей, добра. Прам палегчыла.
Гэй, Эліс... Як лічыш, ці зможаш адшукаць для мяне Дэйлавы мыліцы?


Гэта Глен прыкацїў сюды гэтыя машыны? Яны спатрэбяцца.
Мы ж не хацім, каб шкло ляцела ва ўсе бакі.
Цяпер, калі яны вернуцца, у нас хаця б будзе прыкрыццё... Турма за спінай, машыны наперадзе. Напэўна трэба выбіць вокны перш, чым яны прыедуць...


Відаць, мы рыхтуемся да горшага.
Яны спатрэбяцца. Спадзяюся, у нас ёсць хтосьці, хто зможа кідаць іх падалей праз агароджу... Бо я дакладна не змагу.


Я так разумею, на вежах цэлы склад зброі для Андрэа?
Можа хтосьці прывесці Глена? Мяркую, што нядрэнна было б паставіць некалькі машын у полі, перад турмой... Мы маглі б страляць па бензабаках, каб яны запальваліся і выбухалі.


Што такое?
Эм...


Іх няма.
Каго няма?
Дэйл, Андрэа, блізняты, Глен і Мэгі ўехалі на фургоне... Сафію яны таксама ўзялі з сабой.
Тайрыс і Мічоні адправіліся за Губернатарам. Яны падумалі, што калі заспеюць іх знянацку, тады змогуць забіць некалькіх чалавек і спакойна вярнуцца назад.
Білі зараз наверсе. Высочвае іх з вежы.




Ох, лайно... Я проста не магу паверыць. Не магу паверыць, што яны ўсе... Гэта вельмі дрэнна.

Цяпер я пачаў сумнявацца, што ў нас штосьці атрымаецца.




Ага... Схапілі яго ў лесе. Ён і дзяўчына накінуліся на нас. Забілі Эрыка і Джыма. Мы дагналі іх... Яны забілі яшчэ і Дэніэла... Але не змаглі зладзіць з усімі намі.

Я вырашыў, што ты захочаш трохі паразмаўляць з ім.




Таму мне прыйшлося выбіць яе сратыя мазгі.

